# НОВАЯ ДАРОГА

NEUER WEG

Preis 20 Pf. Weißruthenische Wochenzeitung für den Bezirk Bialystok Цана 20 фнг

Беларуская тыднёвая газэта на Беластоцкую Акругу

Адрас рэдакцыі: Bialystok, Langgasse 16. Тэл. 1020, Банкконто Гарадзкая Каса Ашчаднасьці 700. Цана абвестак паводле тарыфу № 1

№ 7. Беласток, 13 лютага 1944 Год выданьня III.


## БЕЛАРУСЫ!

**20-га лютага ў Горадні, Бельску і Ваўкавыску адбудуцца вялікія народныя маніфэстацыі, на якіх беларусы выкажуць свой прэтэст супроць захопніцкіх плянаў бальшавіцкіх насільнікаў.**

Гадзіна і месца сходаў будуць пададзены ў абвестках.

Сяляне вакалічных вёсак, работнікі і інтэлігэнцыя!

Каму дарагі лёс нашай роднай зямлі—усе, як адзін, на сходы!

Няхай пранясецца магутны голас пратэстаў па ўсёй Беласточчыне!

**Беларускае А'беднаньне ў Беластоку**

# НЕ АДДАМО НАШАЙ ЗЯМЛІ!

По ўсёй Беларусі магутнай хваляй пракаціўся голас пратэсту шырокіх гушчаў Беларускага Народу супроць новага замеру крывавага Сталіна і яго жыдоўска-бальшавіцкае хэўры ізноў закаваць у ланцугі няволі нашу Бацькаўшчыну. Гэтую праступніцкую хэўру ўвесь наш народ пазнаў ужо вельмі добра на працягу яе амаль чверцьвяковага крывавага панаваньня. Бальшавікі ніколі ня лічыліся з голасам і жаданьнямі нашага народу. Наадварот, яны заўсёды гвалтам і сілай накідалі нам сваю няволю і нішчылі ўсе найменшыя нашыя спробы да свабоднага народна-нацыянальнага разьвіцьця.

1918 год — 25-га сакавіка Беларускі Народ на Ўсенародным Кангрэсе ў Менску выявіў сваю волю да незалежнага, самастойнага жыцьця. Ён абвесьціў сябе вольным народам, праклямуючы незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Але гэта не падабалася нашым заклятым ворагам — жыда-бальшавіком. Штыкамі разагналі яны гэты Вялікі Беларускі Народны Сход, паказваючы ўжо тады сваё сапраўднае аблічча ў адносінах да нацыянальных імкненьняў народаў б. царскае Расеі.

Беларускі Народ ня мог пагадзіцца з гэтым гвалтам. Ён пратэставаў перад усім сьветам, але плютакратычныя вэрсальскія пераможцы былі глухія на гэтыя пратэсты. Тады Беларускі Народ хапіўся за аружжа, ведаючы, што толькі ў крывавым змаганьні здабываецца воля народу. Найлепшыя сыны Случчыны з аружжам у рукох выступілі супроць гэтага гвалту і сваёй крывёй выявілі волю да свабоднага жыцьця.

Сьвежыя яшчэ магілы найлепшых сыноў нашага народу, яго інтэлігэнцыі, палітыя іх крывёю ў змаганьні за Волю і Долю Беларусі. Бальшавіком мала было таго, што яны амаль дашчэнту зьнішчылі зьверскім спосабам нашую народную інтэлігэнцыю, — гэтыя міжнародныя праступнікі пастанавілі зьнішчыць душу Беларускага Народу. Яны ўвялі калхозную паншчыну, адабралі ад сялян іх уласную зямлю, змушаючы іх у голадзе і бядзе служыць рэалізацыі сваіх жыдоўска-бальшавіцкіх плянаў — сусьветнае рэвалюцыі. Чорная ноч запанавала над нашай Бацькаўшчынай. Тры мільёны беларускіх сялян і інтэлігэнцыі былі зьнішчаны або сасланы на нямінучую загубу жыдоўска-бальшавіцкімі праступнікамі.

Гэтае «шчасьце» ў постаці ссылак, турмаў, калхозаў і растрэлаў яны хацелі даць і беларусам Заходняй Беларусі. На працягу паўтарагадовага іх панаваньня ў Заходняй Беларусі беларусы таксама адчулі ўжо добра і змаглі пазнаць на ўласнай скуры дабрадзействы і пляны бальшавізму. Колькі сялян было гвалтам выкінута з іх уласных гаспадарак, колькі сірат засталося ў нас пасьля іх кароткага апусташаючага панаваньня, кожны з нас добра ведае.

Для беларускага селяніна наагул сыстэма бальшавізму абазначае яго духовую і фізычную сьмерць. Адымаючы ад яго зямлю, бальшавікі гэтым самым нішчылі аснову яго існаваньня і рабілі яго нявольнікам. Таму зразумелым зьяўляецца, што калі пераможная нямецкая армія зьнішчыла на нашых землях жыда-бальшавіцкую няволю, наш беларускі селянін з радасьцю і запалам прыняўся ізноў за адбудову асноваў свайго жыцьця, сваёй уласнай гаспадаркі, а тым самым падваліны нашага нацыянальнага незалежнага быту.

Увесь беларускі народ з жахам успамінае той жудасны, крывавы сон, які ён перажыў пад бальшавіцкім панаваньнем.

Пачынаючы сваё вольнае, свабоднае жыцьцё, наш селянін ня толькі актыўна пачаў адбудову свайго краю, але гатоў на жыцьцё і сьмерць бараніць да апошняй кроплі крыві сваю родную зямлю. Бо ён ведае, што ў цяперашні час вырашаецца на векі яго лёс.

Жыда-бальшавіцкая хэўра ні ў чым не зьмяніла і цяпер сваіх замераў і поглядаў адносна іншых народаў, а таксама і нас, беларусоў. Так як калісь у 1921 годзе на Рыжскай канфэрэнцыі, разам з польскімі плютакратамі, так і цяпер у 1943 годзе, на Тэгэранскай канфэрэнцыі разам з англа-амэрыканскімі плютакратамі, гэтыя міжнародныя ашуканцы гандлююць жыцьцём Беларускага Народу. Гэтым міжнародным прайдзісьветам зусім не баліць галава аб тым, што наш многамільённы народ з пачуцьцём агіды і абурэньня адносіцца да іх брудных замераў. Каб замацаваць сваё панаваньне над сьветам, міжнародныя жыды пад маскай бальшавізму зусім ня лічацца з сапраўднымі імкненьнямі і сьвятымі ідэаламі народаў, і гатовы ў ахвяру сваіх плянаў сусьветнага панаваньня зьнішчыць дашчэнту кожны народ, які стаіць на перашкодзе гэтаму.

Хітрую і пустую іх ілжу ўжо добра пазнаў наш беларускі народ. І ня ўдасца бальшавіком ізноў ашукаць наш народ салодкімі, але пустазвоннымі словамі аб тым, быццам у іх ужо ўсё інакш, што і патрыярх ёсьць, і новы гімн народны, і нават ужо новыя правы для народаў. Гэтай ілжой не ашукаюць ужо бальшавікі ніводнага беларуса. Колькі-бы скураў зьмяя ня скідала, яна ўсёроўна застанецца зьмяёю! Аб гэтым расказваюць тысячы нашых сялянаў, якія з жахам пакідаюць свае родныя палеткі, каб не апынуцца ізноў пад панаваньнем гэтых крывавых дабрадзеяў, аб гэтым сьведчаць беларускія партызаны, якія ў тылох бальшавікоў з аружжам у рукох змагаюцца за сваю волю і зямлю.

Калі ў 1918 годзе бальшавіцкаму разьніку Мясьнікову ўдалося штыкамі разагнаць Усебеларускі Кангрэс, калі Слуцкае паўстаньне было крывава здушана, бо мы ў той час яшчэ былі нацыянальна слаба ўсьведалены і належна не зарганізаваны, то сягоньня крывавому Сталіну і яго жыдоўскай хэўры ніколі ўжо ня ўдасца ажыцьцявіць свае пляны нашага паняволеньня. Сягоньня мы маем за сабой 25-ці гадовы баявы шлях, які прайшоў наш народ у змаганьні за сваю незалежнасьць. Сягоньня ўжо кожны з нас добра ведае цану хлусьлівых салодкіх абяцанак Сталіна. Яго ашуканствы ўжо раскрыты. Многатысячныя аддзелы нашае Самааховы, паліцыі, службы бясьпечнасьці стаяць з вінтоўкай у рукох на варце нашае Бацькаўшчыны.

Мы зьяўляемся сягоньня саюзьнікам наймацнейшага народу ў Эўропе — Вялікай Нямеччыны, якая крывёй сваіх жаўнераў дапамагла нам вызваліцца з-пад польскае і бальшавіцкае няволі і дала магчымасьць нам класьці моцныя падваліны нашага вольнага незалежнага жыцьця.

Таму ў сэрцах нашых цяпер няма страху за нашу будучыню. Нашы сэрцы поўныя сягоньня абурэньня і гневу ад новых праступніцкіх замераў жыда-бальшавіцкае хэўры, якая-бы хацела ізноў закаваць нас у ланцугі няволі і затапіць у крыві наш акрэпшы беларускі вызвольны рух.

Гэты гнеў і гэтае абурэньне выклікала ўжо шырокую хвалю пратэстаў супроць плянаў чырвонага дыктатара — Сталіна па ўсёй Беларусі. Гэтымі сваімі масавымі пратэстамі Беларускі Народ выявіў перад усім сьветам сваю волю змагацца да апошняе кроплі крыві за сваю родную зямлю, за сваю волю.

Беларусы Беласточчыны з радасьцю прывіталі гэтыя масавыя пратэсты сваіх братоў у Гэнэральным Камісарыяце Беларусі. На масавых народных сходах, якія склікае Беларускае Аб'еднаньне 20-га лютага ў Горадні, Бельску і Ваўкавыску, беларусы Беласточчыны далучаць свой голас пратэсту супроць бальшавіцкіх захопніцкіх плянаў да голасу пратэсту ўсяго Беларускага Народу, каб паказаць перад усім сьветам сваё нацыянальнае адзінства, каб змабілізаваць усе народныя сілы на барацьбу супроць бальшавізму.

Усе да аднаго — на народныя сходы!

Хто пехатой, хто на фурманцы, хто цягніком! Старыя, маладыя, жанчыны і мужчыны! Сяляне і работнікі! Настаўнікі і духаўнікі! Усе, як адзін, падамо свой магутны голас пратэсту на нашых народных сходах!

Памятайце — 20-га лютага праз Горадню, Бельск і Ваўкавыск пройдзе шчыльнымі радамі беларускае насельніцтва і далёка пранясецца кліч волі беларусоў Беласточчыны:

Не аддамо нашай зямлі!

## Беларускія сяляне і бальшавікі

Сучасная навука рознымі спосабамі даведалася аб жыцьці людзей 8 і 10 тысяч гадоў тaму назад. Тым болей мы [illegible] зусім добра ведаем, як людзі жылі 100[illegible]500 гадоў таму назад. Тады яшчэ ня был[illegible]іх вялікіх гарадоў, як цяпер, ня было яшчэ ані вялікіх фабрык, бо ня было амаль ніякіх машынаў. Калі пашырыліся фабрычныя машыны, яны былі прычынай зьнішчэньня паншчыны, г. зн. зусім нядаўна яшчэ людзі жылі галоўным чынам у вёсках і займаліся амаль выключна земляробствам. Зямля давала ім амаль усё неабходнае: ежу, вопратку, абутак і г. д. Наша беларуская вёска нават і цяпер зьяўляецца ў гэтым напрамку амаль самавыстарчальнай. Бяз вёскі, без сялянскай працы немагчыма існаваньне чалавецтва. **Таму нічога дзіўнага, што сялянства зьяўляецца падставай усялякае дзяржавы.** Гісторыя дае нам вельмі добрыя прыклады важнасьці сялянства. Прыблізна 1600 гадоў таму назад на слаўную Рымскую Імпэрыю пачалі нападаць розныя дзікія варварскія плямёны. Рымскія войскі адбівалі гэтых варвараў датуль пакуль было здаровае й магутнае рымскае сялянства. Калі, аднак, рымскія паны пачалі адбіраць сваім сялянам іх зямлю і рабіць іх нявольнікамі, рымскае сялянства памалу пакідала свае хаты, уцякала ў гарады, тут пралетарызавалася, дэмаралізавалася і — гінула. Такім чынам, аднак, гінула й рымскае войска, а гэтым самым і — Рымская Імпэрыя пала, урэшце, пад напорам варвараў. Нешта падобнае мы бачылі ў вапошні час у Францыі. Дзякуючы сваім багатым калёніям, французы пачалі добра, лёгка жыць, бо мелі шмат танных земляробскіх прадуктаў. Праца францускага селяніна не аплачывалася, ды ён захацеў таксама «лёгка, пагарадзкому», жыць, пачаў перасяляцца з вёсак у гарады. Тут хутка падпадаў пад уплывы «лёгкага» гарадзкога жыцьця, траціў здаровыя сялянскія прынцыпы маралі, звырадняўся. У выніку гэтага — пачалося звыradненьне Францыі. Той самы лёс чакаў і былую Польшчу, толькі дзеля іншых прычынаў. Тут усё гаспадарчае жыцьцё знаходзілася ў руках жыдоў, Польскі ўрад палкоўніцкіх дэгэнэратаў быў бязмала поўнасьцю апанаваны жыдамі. Сялянства, кінутае на ласку й ня ласку гэтых крывапійцаў, падала пад цяжарам падаткаў, бяднела, памалу вымірала. Катастрофа дзеля гэтага так ці інакш, мусіла прыйсьці.

Сялянскае жыцьцё мае зусім іншы характар, чым жыцьцё рабочага, або ўрадоўца. Рабочы на фабрыцы, ці ўрадовец у канцэлярыі працуе й атрымоўвае заплату зусім незалежна ад таго, ці пагода добрая, ці дрэнная, ці цёпла ці холадна. Яны незалежны ад прыроды. У селяніна палажэньне зусім іншае. Тут прырода часта правядзе яму такую штуку, што ён застанецца зусім бяз хлеба. Селянін бачыць, што яго праца не вырашае яшчэ канчаткова

(Працяг на 2-й бачыне)

## Беласток

### БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ

Беларускае Аб'яднаньне ў Беластоку плянуе пачаць у найбліжэйшым часе пачаць шырэйшую выдавецкую працу. Ужо здадзены ў друк дзьве кнігі беларускага паэта М. Сяднёва — «Ад сына твайго, Беларусь!» (вершы) і зборнік артыкулаў і ўспамінаў «Ахвяры бальшавізму». Падрыхтоўваецца й хутка будзе здадзена ў друк беларуская хрэстаматыя. Высьвяецца справа надрукаваньня вялікага зборніка навукова-публіцыстычных артыкулаў вядомага беларускага публіцыста Ул. Глыбіннага. Апрача таго прадбачыцца выданьне лепшых твораў беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў у сэрыі «Беларуская Народная бібліятэка» і перакладаў сусьветнае літаратуры ў сэрыі «Бібліятэка перакладаў».

—o—

**Беларускі тэатр.**

Існаваўшая пры Беларускім Аб'яднаньні ў Беластоку тэатральная група дзякуючы адсутнасьці адпаведнага памешаньня не магла да гэтага часу разгарнуць шырэйшае працы. Толькі некалькі беларускіх спэктакляў было зладжана ёю ў Беластоку. Патрэба беларускага жывога мастацкага слова для шырокіх беларускіх масаў, аднак, адчуваецца вельмі востра ня толькі ў Беластоку, але і ўва ўсёй акрузе. Шмат дапамагло ў заспакаеньні гэтак важнае культурнае патрэбы адкрыцьцё беларускіх школаў. Пры школах арганізуюцца драматычныя гурткі, і ўжо цяпер мы можам пахваліцца цэлым радам высока мастацкіх пастановак, якія падымаюць нашу вёску да сьвядомага нацыянальнага жыцьця. Пры Аддзелах Беларускага Аб'яднаньня таксама творацца драматычныя гурткі, якія будуць абслугоўваць бліжэйшыя мясцовасьці.

Гэта, аднак, ня ўсё. Павінен быць у Беласточчыне сталы Беларускі Тэатр, які ўжо беларусы прабавалі тварыць у сваім часе. Беларускае Аб'яднаньне ў Беластоку праводзіць цяпер падрыхтоўчую працу ў мэтах утварэньня сталага Беларускага Тэатру. Перадусім праводзіцца рэгістрацыя тэатральных працаўнікоў, а таксама зьбіраньне адпаведнага рэпэртуару. Беларусы Беластоку спадзяюцца ў хуткім часе атрымаць адпаведную салю, дзе яны змаглі-б праводзіць сваю культурна-нацыянальную працу.

Беларусы Беласточчыны павінны напружыць усе свае сілы, каб стварыць свой Беларускі Тэатр, які выканае вялізарнае заданьне ў нашым нацыянальна-грамадзкім руху.

—o—

### 100 ПЕСЬНЯЎ

Беларускі Хор пры Беларускім Аб'яднаньні ў Беластоку на працягу свае двухгадовае працы развучыў ужо ня менш 100 беларускіх песьняў. Хор мае ў сваім рэпэртуары і арыгінальныя песьні, напісаныя беларускімі кампазытарамі Беласточчыны.

## Горадня

Аддзел Беларускага Аб'яднаньня ў Горадні плянуе ў хуткім часе зладзіць беларускі спэктакль для беларусоў Горадні. Будзе пастаўлена п'еса «Міхалка». Гэты першы спэктакль дасьць магчымасьць горадзенскім беларусам пачаць сыстэматычную масавую працу. У Горадні ёсьць даволі беларускіх артыстычных сілаў, якія патрапяць наладзіць культурна-нацыянальную працу. Кіраўніком тэатральнага гуртка мае быць вызначаны с. К. Драздоўскі, які працаваў ужо даўгі час на беларускай сцэне.

## Астрына

### КЛУМАК З КНІЖКАМІ ПАД ПАХАЙ...

Ад Новага Году пачала працаваць у нашым мястэчку беларуская пачаткавая школа.

У адчыненьні школы многа дапамог с. А. Рожка з Беларускага Аб'яднаньня ў Горадні, які асабіста зрабіў шмат стараньняў і высілкаў для справы, за што ўсе нашыя беларусы яму шчыра дзякуюць. Бацькі, пачуўшы аб адкрыцьці школы, вельмі ахвотна запісвалі сваіх дзяцей у родную беларускую школу, не зважаючы на ніякія труднасьці.

У школе цяпер вучыцца 135 дзяцей з самога мястэчка. Цяпер пакуль што працуе чатыры клясы. Навука адбываецца на дзьве зьмены па прычыне неадпаведнага будынку. Ня гледзячы на розныя недахопы, праца йдзе насьпяхова.

Беларуская школа—гэта кузьня, дзе куюцца новыя беларускія змагары, новае пакаленьне Беларускага Народу.

Няхай бацькі вакалічных вёсак таксама пастараюцца залажыць такія школы для сваіх дзетак, дзе сонца навукі асьвеціць новы шлях да нашае сьветлае будучыні.

**Бацька.**

## Тапаляны

Беларуская моладзь в. Тапалянаў 30-га сьнежня б. г. зладзіла вечар-спэктакль. Была пастаўлена п'еса К. Каганца «Модны шляхцюк». На спэктакль прыйшлі ня толькі жыхары нашае вёскі, але й беларусы з іншых вёсак. П'еса прайшла вельмі добра. У нашай вёсцы ёсьць шмат моладзі, якая імкнецца разгарнуць шырэй беларускую працу. Хутка адбудзецца новая пастаноўка.

Мы пэўны, што моладзь нашая хутка зарганізуецца і пачне жыць сапраўды культурным жыцьцём.

**Хтось-Такі.**

# Алесь Дудар

Алесь Дудар, як і многія іншыя «маладнякоўцы», зьявіўся ў беларускай паэзіі з «бунтарнымі» вершамі, з вераю ў сьветлае будучае, з душою на «расхлыст». Малады задор характэрны для ўсяго яго першага зборніка «Беларусь бунтарская». Як і для многіх другіх, слова Беларусь для Алеся Дудара зьяўлялася жыватворчаю крыніцаю. Ёю прасякнута, калі можна так сказаць, амаль уся творчасьць маладнякоўцаў (назва паходзіць ад часопісу «Маладняк»). Беларусь была для іх тым аганьком, на які ішлі яны ўпэўненым поступам, але трэба сказаць, на якім яны і апякліся. Юнацкая наіўнасьць не магла разглядзець сапраўднага аблічча савецкай улады, якую яны ўхвалялі з усімі яе атрыбутамі. Сэрца паэты імкнулася ў «мяцежную даль», сьветлую і радасную.

«Хто прайшоў — галаву павесіў,  
Мільёны пудоў у гадох.  
Ну, а я малады, мне весела  
Разагнацца ў мяцежную даль».

Аднак хутка гэтая наіўнасьць праходзіць, і паэт пачынае глядзець на сьвет цьвярозымі вачыма. Алесь Дудар больш ня рвецца ў «мяцежную даль» Гэтая «мяцежная даль» зацьмілася й нічога не гаварыла яго сэрцу. Тое, што было для яго і «залацістым і сталёвым» (зборнік вершаў «І залацісьцей і сталёвей») аказалася фальшывым, фікцыяй.

Былі гады калектывізацыі сельскай гаспадаркі, былі гады разбурэньня вёскі. Алесь Дудар, паходзячы з сялянскай сям'і, адчуў боль за гэтае зьнішчэньне, як быццам-бы раны былі прычынены на яго целе. У выніку — Алесь Дудар піша антыбальшавіцкую паэму «Пасеклі наш край», якая распаўсюджвалася ў рукапісах бяз подпісу аўтара. Але хутка НКВД гэтую справу разьнюхала. Паэт быў высланы за межы Беларусі на тры гады. У параўнаньні з тымі рэпрэсіямі, на якія здольна НКВД, гэтая кара была зусім яшчэ не вялікай. Пасьля, праз тры гады, паэт вяртаецца на Беларусь. У гэты час Алесь Дудар працуе над перакладамі клясыкаў сусьветнае літаратуры на беларускую мову. Ён пераклаў «Еўгені Анегін», Пушкіна, «Фауст» Гётэ, «Вільгэльм Тэль» Шылера, Бамаршэ і г. д. У гэтым вялікая заслуга нашага паэта. Гэтыя творы ўпяршыню яшчэ перакладзены на нашу мову. Гэты этап у рабоце Алеся Дудара мае гістарычнае значэньне для беларускае культуры. Мы і нашыя нашчадкі высока ацэняць гэтую працу паэта.

Ня гледзячы, здавалася-б, на такую аналітычную працу Алеся Дудара, яго ў 1937 годзе арыштоўвае НКВД, робіць адным з кіраўнікоў нацдэмаўскай арганізацыі ў Менску.

Так абарвалася дзейнасьць аднаго з культурнейшых беларускіх паэтаў. Засьцені менскай унутранай турмы хаваюць таямніцу аб лёсе Алеся Дудара.

Яшчэ адна ахвяра бальшавізму!

## Міжрэчча

14-га студзеня ў Міжрэцкай школе адбылася школьная ёлка.

У 12 гадзін сабраліся вучні малодшых клясаў. Гэта была як-бы гэнэральная рэпэтыцыя. Увечары ўся праграма была паўторана для старэйшых дзяцей і бацькоў.

У праграме была п'еска «Дзед Мароз у школе» і жывы абраз. Дзеці выканалі беларускія й нямецкія калядкі, прадэклямавалі беларускія й нямецкія вершы. Вялікае ўражаньне зрабілі танцы. Ужо зіма... перад гледачамі праходзіць памастацку выкананы танец «Сьняжынкі». Пасьля былі выкананы беларускія танцы.

Ёлачка прынясла вялікую карысьць. Шмат было радасьці і пацехі для дзяцей і бацькоў.

**К—я.**

**МАСЕЙ СЯДНЁЎ.**

## Пастушка

Ціхі захад у лагчынах  
Сонца тушыць.  
Гоніць статак на спачынак  
Свой пастушка.

Жыта коласам багатым  
Дасьпявае.  
Падганяе яна статак,  
І сьпявае.

Сьпеў ліецца і па полі,  
І па рэчцы.  
Кіне яна быстры погляд —  
Усьміхнецца.

Асядае пыл на плечы  
І на косы.  
У траву халодны вечар  
Роніць росы.

Яркнуць радасьцю нязнанай  
Яе вочы:  
— Сенажаці, лес, паляны,  
Добрай ночы!

в. Мокрае, 1936 г.

# Наша школа

Тысячы гадоў таму назад нават такія высока культурныя народы старажытнасьці, як грэкі й рымляне, ня мелі ані жалезных дарогаў, ані самаходаў, ані электрыкі, ані друкарняў і да т. п. Гэтыя надзвычай карысныя здабыткі цывілізацыі былі асягнуты зусім нядаўна, перадусім у Эўропе, дзякуючы пашырэньню навукі, асьвечаных людзей, думка якіх нязтомна працавала для дабра чалавецтва. Яны, карыстаючыся навуковымі вынікамі сваіх папярэднікаў, пераймаючы досьлед папярэдніх пакаленьняў, узбагачалі навуку новымі здабыткамі, якія выкарыстоўваліся для палепшаньня быту чалавецтва. Жалезная дарога, самаход, друкарня і да т. п. служыць не для асабістага дабра вынаходцы, а нават ня толькі для дабра яго народу, але й для дабра ўсіх людзей. Усе гэтыя посьпехі навукі магчымы ў вялікай, калі ня вылучнай меры, дзякуючы школе, бо яна зьяўляецца падставай поступу чалавецтва.

Але школа мае й іншае, ня менш важнае значэньне. Даўней, калі людзі ня знаці яшчэ сучасных форм дзяржаўнага жыцьця, жылі невялікімі групамі — плямёнамі, мелі толькі каменнае аружжа, існаваньне іх было вельмі цяжкое. Прырода, а таксама і чужыя суседнія плямёны пагражалі ім усьцяж вялікай небясьпекай. Чалавек тады, калі ён адбіўся ад свайго племяні, або мусіў яго пакінуць, або быў амаль згубленым. Сам ён існаваць па-за грамадой ня мог, а чужое племя лічыла яго чужым і прасьледавала. Нават сягоньня ў мове мы кажам аб прадстаўніку іншага народу, як «чужынцу». Яшчэ старадаўныя грэкі лічылі найбольшай карай выгнаньне праступніка па-за межы сваёй дзяржавы. Нічога дзіўнага дзеля гэтага, што кожны грамадзянін стараўся адпаведна да гэтых законаў прыстасаваць сваё матарыяльнае й духовае жыцьцё і ўсімі сіламі імкнуцца да таго, каб яго бацькаўшчына й народ ува ўсіх напрамках былі для яго наймагутнейшыя і найслаўнейшыя. У народаў, стаяўшых яшчэ на нізкай ступені культурнага разьвіцьця, увесь досьлед папярэдніх пакаленьняў перадаваўся вусна, у іх дзеля гэтага поступ адбываўся вельмі павольі, а галоўную ролю адыгрывала традыцыя, жыцьцё іх ішло, як мы кажам «сьледам за дзедам». У народаў, якія ўжо пачалі жыць высока арганізаваным дзяржаўным жыцьцём, гэты досьлед перадаваўся ўжо больш зарганізавана. У гэтых народаў вялікую ролю пачынае адыгрываць школа. Кожны з нас сягоньня добра ведае, што чалавек, як грамадзкая істота, можа найлепш уладзіць сваё жыцьцё толькі ў грамадзе, у якой і праз якую ён можа карыстацца культурнымі здабыткамі сваіх продкаў і далей узбагачваць іх для будучых пакаленьняў. Толькі ў грамадзе магчымы культурны й маральны рост адзінкі. Ужо даўно вядома чалавецтву такая вялікая маральная праўда, да якой вечна імкнецца чалавек, што дабро і шчасьце адзінкі залежыць ад Дабра й Шчасьця грамады.

Гэтую вялікую праўду, аднак, ня прыносіць чалавек з сабой на сьвет пры сваім нараджэньні. Яе пазнае дзіця пасьля, спачатку ў сям'і й найбліжэйшым сваім акружэньні, а пасьля галоўным чынам у школе. Школа ў гэтым напрамку мае вялізарнае, часта вырашаючае значэньне ў кшталтаваньні ў дзіцяці агульна-людзкіх рысаў яго характару, яго агульнага сьветапагляду, робіць з яго змагара за агульнае Дабро й Шчасьце чалавецтва. Тут выкоўваюцца высокавартасныя адзінкі народу, якія сваёй агульналюдзкай працай зьбліжаюць народы, узбагачаюць агульна-людзкі Дух дабра для ўсіх.

Але сягоньня кожная зарганізаваная грамада, гэта амаль заўсёды дзяржава. Для кіраваньня вельмі скамплікаваным грамадзкім жыцьцём сягоньня патрэбны тысячы інтэлігэнтных і выкваліфікаваных працаўнікоў. Дзяржава ў гэтых мэтах выкарыстоўвае школу, каб узгадаваць патрэбныя сілы для працы ў нацыянальна-грамадзкім жыцьці. Дзеля гэтага яна кладзе асаблівы націск на нацыянальны характар школы. Праз сыстэму школьнага ўзгадаваньня яна разьвівае свой нацыянальны Дух. Гэта і зразумела й неабходна, бо кожны народ-нацыя мае ў сваёй душы акрамя агульналюдзкіх рысаў свой уласны асаблівы духоўны склад, сваю ўласную псыхіку дзякуючы сваеасаблівым умовам свайго прыродна-гістарычнага разьвіцьця. Мы часта па вонкаваму выгляду пазнаем, да якое нацыянальнасьці належыць той ці іншы чалавек. Духовае разьвіцьцё кожнага народу, гарманійнае супрацоўніцтва ўсіх нацыяй дзеля гэтага зьяўляецца прадумовамі Дабра й Шчасьця ўсяго чалавецтва.

Нажаль, у гісторыі мы часта бачым, што жыцьцё народаў часта адхіляецца ад гэтай зразумелай праўды. Многія больш сільнейшыя народы зразумелі закон прыроды — барацьбы за існаваньне не паводле гэтых адвечных маральных праўд. У выніку гэтага, мы, беларусы, страцілі ня толькі сваё незалежнае існаваньне, але і права да разьвіцьця нашага нацыянальнаг духу, культуры й мовы, — нашае роднае школы. Мы не маглі мець нашае інтэлігэнцыі, якая-бы памагала нашаму народу працаваць для нашай культуры, Дабра й Шчасьця нашага народу. Аграблены, прыгнечаны, замучаны наш народ стаяў на краю загубы, бо ад яго ўсё бралі, але нічога не давалі. Чорная ноч панавала ў нашым краі. Праўда, гэтая чорная ноч праясьнялася часам выбухамі пратэсту й гневу народу, але зло было мацнейшае. Варожая нам чужацкая школа, быўшая на паслугах прыгнятаўшых нас нацыянальна народаў, атручвала і калечыла душы нашае моладзі. Замест прышчапленьня прынцыпаў Дабра яна была для нас толькі пашыральнікам Зла.

Але гісторыя зьмяла гэтае зло з нашае зямлі — і паўстала нашая родная школа. Наш беларускі нацыянальны дух, вызвалены з сваіх аковаў, заклікае нас шанаваць і разьвіваць яе, як кузьню нашае беларускае культуры, нашага Дабра, нашага Шчасьця. Некалі бацька нашага Адраджэньня Фр. Багушэвіч заклікаў нас не пакідаць свае роднае, беларускае мовы, каб не памерці. Сягоньня мы павінны ўзмацняць нашу школу, каб ужо ніколі больш ня гібелі пад чужацкім ярмом, каб сьвятло навукі памагала таксама нам, беларусам, будаваць сваю сьветлую будучыню, каб ня толькі не памерці, але каб і прыняць удзел у агульналюдзкай культурнай творчасьці. Дзеля гэтага нашыя ахвярныя настаўнікі зьяўляюцца сягоньня нашымі жаўнерамі на высокаадказным фронце нашага духовага росту, нацыянальнага ўсьведамленьня і ўзгадаваньня і — Волі да самастойнага жыцьця. Гэтая воля мусіць стацца агульнай воляй усяго нашага народу.

Таму ў нашай духова-нацыянальнай крысталізацыі пачэснае месца займаюць сягоньня бацькоўскія камітэты пры школах. Яны мусяць стацца злучывам паміж школай і грамадзянствам. Яны павінны вытварыць сягоньня адзіны агульны культурна-грамадзкі фронт усіх беларусоў за нашую лепшую сьветлую будучыню. Гэтым наша школа выпаўніць сваё вялікае заданьне перад нашым народам у мамэнт яго палітычна-нацыянальнага ўваскрашэньня. Правільна будуючы школу, праводзячы ў ёй правільнае нацыянальнае й грамадзкае ўзгадаваньне, мы кладзем моцныя падваліны пад будучыню нашага народу. Дзеля гэтага ўся ўвага нашага грамадзянства павінна быць сягоньня скіравана на школьны фронт. Бо толькі той народ, які праз школу перадае свае нацыянальныя й культурныя вартасьці, можа сьмела глядзець у сваю будучыню.

**Ул. Б—ік.**

